# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 38 (603) ГОД XII 17 ВЕРАСНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.




Лясная дарога пасля дажджу. Фота: **Янка Цялушэцкі**

# ДОМІК ЭЛІЗЫ АЖЭШКА

Аднапавярховы, драўляны домік Элізы Ажэшка прыцягваў мяне заўсёды, колькі помніцца, у юнацкія гады. Легенды аб ім, аб яго гаспадыні яшчэ былі тады жывыя і перадаваліся з вуснаў у вусны. Праходзячы міма яго ў гімназічныя гады (1916—1922) моцна хацелася заглянуць усярэдзіну. Але вокны заўсёды былі завешаны так, што не заставалася нават шчыліны, праз якую ўдалося б пранікнуць усярэдзіну. Дзверы заўсёды былі замкнёны. Домік таіў у сабе як бы таямніцу вялікасці чалавека і гэта хацелася ахапіць. А тады думалася, што гэта можна ўбачыць нават.

Толькі праз 42 гады, наведаўшы свой родны горад, я асмелілася пераступіць парог зачараванага некалі доміка. Тым больш, што адзін з надпісаў на дзвярах гэтаму садзейнічаў. Тут змяшчаецца бібліятэка. Увайшоўшы ў адзін з пакояў — убачыла за пішучай машынкай гродзенскага пісьменніка Аляксея Карпюка — сакратара гродзенскага аддзела Саюза пісьменнікаў БССР, вядомага ў нас м. ін. па публікацыі ў «Ніве» сваёй «Пушчанскай адысеі», а таксама па сваіх іншых кнігах. Побач даволі вялікі стосік ужо напісанага... Піша на беларускай мове. «Што ж, падумала. Цудоўнае месца для творчасці; каб пані Эліза некалі магла падумаць, што праз 50—60 гадоў пасля яе смерці, яе домік не перастане служыць літаратуры — напэўна бы гэтым ганарылася». Тут змяшчаецца ў вуглу маленькая выстаўка кніг і фатаграфій сучасных гродзенскіх пісьменнікаў, паэтаў. Выдзяляецца над Нёманам сілуэт Васіля Быкава, яго кнігі ў перакладзе на розныя мовы. Між іншым заўважыла таксама здымак польскага пісьменніка — Віктара Варашыльскага, які таксама з'яўляецца ўраджэнцам г. Гродна, яго кнігі (між іншым кнігу аб Маякоўскім — тут хваляць). І гэты вугалок таксама ж жывая пераемнасць знатнай гараднянкі.

У наступным пакоі, таксама своеасаблівая выстаўка — здымкі гродзенскіх пісьменнікаў і паэтаў, на фоне агульнанародным, агульнасаюзным, г.зн. разам з пісьменнікамі Беларусі і СССР. У гэтых двух пакоях змяшчаецца Гродзенскі аддзел Саюза пісьменнікаў БССР.

На другой палавіне, у даволі прасторным пакоі — былым салоне пані Элізы — ствараецца музей. Яго пачаткам можна лічыць выстаўку дакументаў і здымкаў з яе жыцця. У верхнім паверсе змяшчаецца даволі багатая бібліятэка.

«Гэта ўсё ўжо сённяшняе Гродна; дзе ж тое, чаго я калісьці шукала і хацела знайсці ў доміку Элізы Ажэшка?» — думала я выходзячы на вуліцу. Так

(Працяг на стар. 4)

САЛДАТЫ КАСТРЫЧНІКА




Зараз яму 71 год. Нарадзіўся і ў асноўным правёў свой век у вёсцы Горнай, якую некалькі год таму назад штучна дачапілі да Гайнаўкі і пачалі называць вуліцай Горнай. У армію Сашка папаў па ўласнай волі. Наслухаўся заклікаў: «За Радзіму!», «За цара-бацюшку!» і пайшоў шукаць помсты на немцах, якія выгналі яго сям'ю з роднай вёскі.

Было яму тады 20 год. Высокі, падцягнуты, у матроскай форме мог з першага позірку заваёўваць сэрцы дзяўчат. Час аднак не спрыяў каханню. Аляксандр Пэршка, матрос 7-ай роты, 2-га батальёна, 2-га балтыйскага экіпажа, пакуль што праходзіў страявое абучэнне і меў намер засвойваць тайны электратэхнікі, з якой упершыню непасрэдна сутыкнуўся на караблі «Нікалаеў».

— Карабель наш, — успамінае былы матрос, — стаяў на Крукаўскім канале горада Петраграда. Насупраць нас размяшчаўся фінляндскі полк. Нашым экіпажам камандаваў генерал Гільс — яры царскі старонні́к. Калі баставалі рабочыя пуцілаўскага завода, Гільс загадаў страляць да іх. Дык у рэвалюцыю матросы ўтапілі яго ў рэчцы Мойка.

Пасля 50 год памяць захавала аддзельныя, быццам на кускі парваныя, вобразы тадышніх бурлівых дзён.

— Разбудзіла нас страляніна. Сігналіст адтрубіў трывогу. Расклаліся мы ланцужком ля Нікалаеўскага маста. Ноч, цёмна, холадна. Што, да чаго — чорт яго ведае. Паказаўся нейкі ваенны патруль.

— Таварышы матросы! — раздаўся голас упоцемках. — Далоў цара! Прылучайцеся да рэвалюцыі!

Хтосьці выстраліў, за ім другі і трэці.

— Расстраляць іх, гэтых агітатараў! — загадаў нейкі афіцэр. Тады я пачуў шэпт:

— Хлопцы, не страляйце!

Я адвярнуў галаву. Гэта гаварыў наш унтэрафіцэр. Словы яго пачалі матросы перадаваць з вуха на вуха. Ваенны патруль аказаўся дэлегацыяй фінляндскага палка. Яны падгаварылі нас прыступіць да рэвалюцыі. Наш палкоўнік тады адчаянна заявіў:

— Рабіце, што хочаце, мы не ведаем каму падчыняцца!

Да нас далучыўся яшчэ гвардыйскі экіпаж матросаў. Афіцэры — хто як: некаторыя пайшлі з намі, некаторыя ўцяклі, некаторых... як генерала Гільса... ужо ж гаварыў я вам аб ім.

Лютаўская рэвалюцыя перамагла. Закончыўся 300-гадовы перыяд уцаравання Дома Раманавых. Для Аляксандра Пэршка абазначала гэта вяртанне да нармальнай службы: вахта на караблі, вартаванне розных пастоў у горадзе... І адзін незабыўны для яго ўрачысты момант: пахаванне ахвяр лютаўскай рэвалюцыі на Марсавым Полі. Уласнаручна капаў ён магілы, зносіў труны. А пасля па загаду Тымчасовага ўрада рэвалюцыйных матросаў (каб былі яны як мага далей ад сталіцы) адправілі нібы для абучэння на фінскі востраў Транзут. Вярнуліся адтуль пад канец верасня. Стаялі ў Кранштаце. **Да 24 кастрычніка. Ноччу гэтага дня сігналіст карабля «Нікалаеў» адтрубіў другую гістарычную трывогу.** Матросы сабраліся ў сталовай, дзе прыходзілі на абеды і на малебень. Нехта аб'явіў:

— Мы адпраўляемся ў Петраград у распараджэнне ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Хай жыве пралетарская рэвалюцыя!

— Хай жыве Ленін! — адгукнуўся нехта другі.

— Урра! — зараўлі матросы хорам.

Частка экіпажа карабля «Нікалаеў» асталася непасрэдна ў распараджэнні рэвалюцыйнага штаба ў Смольным. З імі быў Аляксандр Пэршка.

24 кастрычніка Ленін у сваім апошнім пісьме з падполля пісаў членам ЦК: **«... у што б там ні стала, сёння вечарам, сёння ноччу арыштаваць урад, аббязброіўшы (перамагчы, калі будуць супраціўляцца) юнкраў і т.д. Нельга чакаць! Можна страціць усё!!»**

Гэта быў сігнал да штурму на Зімні Палац, дзе размяшчаўся ўрад Керанскага. Сярод штурмуючых знайшоўся матрос Аляксандр Пэршка.

— Зімні, — успамінае ён, — абараняў жаночы батальён. Бараніліся яны адчаянна, як ведзьмы. Але мы хутка расправіліся з імі.

На выручку часоваму ўраду рушыў генерал Карнілаў. Матрос Аляксандр Пэршка апынуўся тады на Кулькаўскім узвышшы, бараніў доступу карнілаўскім вайскам да рэвалюцыйнай сталіцы.

— Частка казакоў перайшла на наш бок, — кажа Аляксандр Пэршка, — і Карнілаў вымушаны быў адступіць. У Петраградзе аставаўся я яшчэ нейкіх два тыдні. Хадзіў на варту, сцярог розныя аб'екты і ўстановы, удзельнічаў у мітынгах. Вось тады, на мітынгу ў Кранштаце, упершыню давялося пабачыць Леніна. Ён якраз выступаў з прамоваю. Хтосьці за мной адазваўся:

— Добра спяваеш, галубчык, але не вядома на чым сядзеш.

— Маўчы, контра! — гавару яму, сплюнуўшы ў кулак. Ён тут жа змыўся ў натоўпе. Я незадоўга вярнуўся на свой карабель, а ў сакавіку 1918 года дэмабілізаваўся і паехаў да сям'і ў Тамбоўскую губерню.

На тым аднак яго баявая гісторыя не закончылася. Быў яшчэ салдатам атрада для барацьбы з контррэвалюцыяй і спекуляцыяй, ваяваў з казакамі, служыў сакратаром сельсавета. Неаднойчы глядзеў смерці ў вочы.

— Адзін раз казакі напалі на нас якраз тады, калі мы купаліся ў лазні. Многіх пабілі. Я ўцёк, зусім голы, як маці нарадзіла.

У жніўні 1920 года вярнуўся ў родную вёску. Быў членам Грамады і КПЗБ, ад вызвалення член ПАРП. Рада Дзяржавы прысвоіла яму Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы.

**В. Рудчык**



Былы марак Балтыйскага флота Аляксандр Пэршка з Гайнаўкі. Фота аўтара

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

# СВЕТ

## У ПАРЫЖЫ

Карэспандэнты інфармуюць, што ў сувязі з візітам генерала Шарль дэ Голя ў Польшчы ў Парыжы павялічылася запатрабаванне на польскую культуру. Выкуплены ў кнігарнях кніжкі аб Польшчы, а білеты на канцэрты польскіх мастацкіх калектываў, якія знаходзіліся ў Парыжы, распраданы на ўвесь час выступленняў.

## Р. КЕНЕДЗІ АБ РАСАВЫМ КРЫЗІСЕ

Французскі журнал «Экспрэс» апублікаваў інтэрв'ю з сенатарам ЗША Р. Кенедзі аб сітуацыі неграў у ЗША. Р. Кенедзі, між іншым, сказаў: «Я думаю, што гэта самы большы крызіс у нашай краіне за апошнія 100 год, гэта значыць ад часоў вайны між Поўднем і Поўначчу». Пацвярджаючы сцверджанне «Экспрэса» Р. Кенедзі сцвердзіў: «Фактычна ў кварталах галечы паліцэйскі — гэта перад усім чалавек, які прыходзіць, каб налажыць арышт на маёмасць за неаплачаныя вэкслі. Ён выступае як прадстаўнік багатых супроць бедных... А гета (для неграў — А. К.) — гета беднякоў і нешта яшчэ горшае... Ва ўсёй Амерыцы маецца несумненна больш мільёна неграў, мужчын і жанчын, якія ніколі не былі зарэгістраваны пры спісах насельніцтва, або, калі хочаце, іх проста лічаць неіснуючымі». Да гэтага неабходна дадаць, аб чым таксама гаварыў Кенедзі, што на 56 тысяч пражываючых у гета людзей ва ўзросце 20—64 год, 4500 з іх патраціла надзею знайсці працу, 3600 зарэгістраваных беспрацоўнымі, 2300 чалавек, якія не маюць працы на поўны дзень, працуюць толькі частку дня і... 15 тысяч тых, якіх статыстыкі абсалютна не паказваюць.

## СКАРАЧЭННЕ НАВУКІ Ў РУМЫНІІ

У Румыніі прадбачваецца скарачэнне навукі на вузах да 4—4,5 год, а педагагічных да 3 год. Станецца гэта магчымым дзякуючы прадаўжэнню навукі ў сярэдніх школах да 12 год, а таксама перанясенню ваеннай службы на час пасля сканчэння навукі. Апрача таго прадбачваецца стварэнне навучальных установ паўвышэйшага характару для тэхнічных кадраў. Будуць гэта двухгадовыя школы, арганізацыя якіх будзе залежная ад паасобных галін гаспадаркі і раёнаў краіны.

## НЕПІСЬМЕННАСЦЬ

Міжнародныя статыстыкі падаюць, што 40% насельніцтва свету з'яўляецца непісьменным. Больш 700 мільёнаў жыхараў Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі — гэта непісьменныя, і што важнае, што свет замест таго, каб набліжацца да ліквідацыі непісьменнасці — аддаляецца. Каб намаганні ў напрамку ліквідацыі непісьменнасці аб'яднаць 8.IX. назначана Днём барацьбы з непісьменнасцю.

Калі на Кубе 250 тыс. студэнтаў і вучняў навучыла больш 1 мільёна не ўмеючых пісаць і чытаць, дык у партугальскіх калоніях 99 на 100 чалавек — гэта непісьменныя.

А. К.

# БССР

## БЕЛАРУСКАЙ ССР

Мінскія газеты запоўнены матэрыяламі аб Днях культуры і мастацтва Беларускай ССР, што адбыліся ў Маскве. Масква энтузіястычна ўспрыняла рускіх і беларускіх творцаў культуры БССР. У днях удзельнічала вялікая група беларускіх пісьменнікаў, якія мелі шэраг сустрэч з масквічамі — м. ін. Данута Бічэль з Гродна.

На заключным канцэрце, што адбыўся ўвечары 4 верасня ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў, прысутнічалі: Л. І. Брэжнеў, Г. І. Воранаў, А. М. Касыгін і іншыя савецкія асабістасці — у іх ліку першы сакратар ЦК беларускай кампартыі П. Машэраў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Кісялёў, сакратар ЦК КП Беларусі С. Пілатовіч.

## СЯБРЫ

У Беларусі знаходзілася група былых нямецкіх антыфашыстаў — удзельнікаў партызанскага руху ў рэспубліцы ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Групу ўзначальваў начальнік штаба ваенна-марскога флота Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, контр-адмірал Фелікс Шэфлер.

## УЗОРЫ

На Гродзенскай фабрыцы мастацкіх вырабаў распрацаваны новыя ўзоры дзіцячага і жаночага адзення з беларускім арнаментам. Ткачыхі Слуцкай фабрыкі паясоў — якую ведае ўвесь свет — пачалі выпускаць прыгожыя гальштукі і жаночыя паясы.

## АБЛІЧЧА

Адбылася Рэспубліканская выстаўка плаката. У сувязі з гэтым В. Шматаў так піша на старонках мінскай «Літаратуры і Мастацтва»:

«Размову аб першай Рэспубліканскай выстаўцы плаката хочацца мне пачаць з Усесаюзнай выстаўкі савецкага палітычнага плаката, якая адбылася ў маі —чэрвені гэтага года ў Маскве... На маскоўскай выстаўцы мы ўбачылі баявы, востра публіцыстычны, выхаваны на традыцыях Маора і Маякоўскага маскоўскі плакат; выключна самабытны, адметны ў сваёй каляровай гаме плакат рэспублік Прыбалтыкі, арыгінальныя плакаты Азербайджана, Грузіі, Украіны і г.д. А беларускі плакат, як ні горка пра гэта гаварыць, сціпла вісеў на сценах Манежа, невыразны, быццам у чужой вопратцы, якую для яго пазычылі, каб было ў чым выйсці на людзі. Некаторыя аўтары нават пераклалі тэксты сваіх плакатаў на рускую мову, чым нямала здзівілі ўсесаюзнага гледача... Несамастойнасць мыслення, запазычанасць формы, трафарэтнасць вобразаў — бадай галоўны недахоп многіх работ нашых плакатыстаў... Дык дамо самім сабе параду: трэба шукаць!

Трэба, нарэшце, вырвацца з зачараванага кола звыклых стандартаў і знайсці сваё нацыянальнае абліччa».(...)

(С.Я.).

# ПОЛЬШЧА

## ДЭ ГОЛЬ

6 верасня на запрашэнне Старшыні Рады Дзяржавы Эдварда Охаба прыехаў з дзяржаўным візітам прэзідэнт рэспублікі Францыі генерал Шарль дэ Голь разам з жонкаю і асобамі французскага ўрада.

На аэрадроме віталі прэзідэнта: Уладзіслаў Гамулка, Эдвард Охаб, Юзэф Цыранкевіч, а таксама шмат іншых асоб польскага ўрада і дыпламатычнага корпусу акрэдытаванага ў Варшаве. Падчас павітальных прамоў Эдвард Охаб і генерал дэ Голь навязалі да доўгіх традыцый дружбы паміж польскім і французскім народамі, а перад усім да супольных лёсаў і супольнай барацьбы ў час другой сусветнай вайны.

7 верасня пачаліся афіцыйныя размовы паміж Старшынёй Рады Дзяржавы Эдвардам Охабам і прэзідэнтам дэ Голем. Размовы працягваліся 2 гадзіны і закраналі міжнародныя праблемы (вайны ў В'етнаме, сітуацыі на Блізкім Усходзе, справы Германіі), а таксама суадносіны ў галіне эканоміі і культуры паміж абедзвюма краінамі.

У першым дні сваёй экскурсіі па Польшчы прэзідэнт дэ Голь наведаў Кракаў. Выступіў ён тут з прамоваю, у якой між іншым заявіў:

«Будучыня — гэта дружба, гэта супрацоўніцтва, гэта супольная дзейнасць Польшчы і Францыі. Нягледзячы на вялікія перашкоды, якія могуць узнікнуць, два нашыя народы створаны, каб жыць у дружбе і супрацоўніцтве для дабра і міру, для дабра ўсіх людзей, для ўзнікнення сапраўднай Еўропы».

9.IX. прэзідэнт дэ Голь наведаў Асвенцім, дзе склаў вянок пад помнікам 4 мільёнаў ахвяр гітлераўскага варварства. З Асвенціма прэзідэнт Францыі выехаў на Сілезію. Падчас снедання наладжанага ў Катовіцах старшынёю ВРН генерал дэ Голь, гаворачы аб мэтах візіта, між іншым заявіў:

«Разыходзілася аб паказанне з нашага боку — і Вы гэта таксама дасканала паказалі са свайго боку — гэтага асноўнага ў Еўропе палітычнага факту: салідарнасці паміж Польшчай і Францыяй, салідарнасці, якая ў сапраўднасці ніколі не перастала існаваць, нават калі з нейкіх непрыхільных прычын была аслабленай».

Далей генерал дэ Голь наведаў Гданьск і Вэстэрплятэ, дзе склаў вянок ля помніка польскіх салдат, якія змагаліся за гэты паўвостраў у 1939 і 1945 гадах.

## 32 МІЛЬЁНЫ

Яшчэ ў гэтым месяцы народзіцца 32-мільённы грамадзянін нашай краіны. У канцы I паўгоддзя гэтага года Польшча налічвала 31.943 тысячы жыхараў. Да поўнага ліку не хапала 57 тысяч асоб. Прадбачыцца, што прырост насельніцтва ў III чвэрці асягне лік каля 63 тысяч асоб. Такім чынам праўдападобна краіна асягне лік 32 мільёнаў жыхараў у пачатку другой паловы верасня. (п)

# ВАЯВОДСТВА

## РАМЕСНЫЯ ПАСЛУГІ

Сейм ПНР разглядаў праблемы развіцця рамеснага абслугоўвання насельніцтва краіны. У Беластоцкім ваяводстве працуе зараз звыш 8.200 невялікіх рамесных пунктаў, у тым ліку амаль 6.500 — прыватных. Толькі на працягу першага паўгоддзя г.г. на Беласточчыне было адкрыта 444 новыя рамесныя пункты.

## У ТЭАТРЫ

Пасля летняга перапынку Дзяржаўны драматычны тэатр імя Ал. Вянгеркі ў Беластоку распачаў свой новы сезон п'есай Л. Кручкоўскага — «Немцы».

## ВІЗІТ ВЕТЭРАНАЎ

Савецкія грамадзяне — **Васіль Самуцін і Канстанцін Кудраўцаў** — у мінулым тыдні наведалі Беласточчыну.

В. Самуцін да вайны быў сакратаром Акруговага камітэта КПЗБ у Беластоку. Тут ён адседжваў 10-гадовы прыгавор за падпольную дзейнасць. У час акупацыі быў ён сакратаром партызанскага падпольнага камітэта ВКП(б), які дзейнічаў на Беласточчыне.

К. Кудраўцаў, як капітан Савецкай Арміі, у студзені 1944 года быў закінуты з дэсантам у Дуброўскі павет і тут дзейнічаў у партызанах.

Абодва ветэраны былі гасцьмі Акруговага праўлення ЗБоВіД. Яны наведалі Бельскі, Беластоцкі і Дуброўскі паветы, дзе сустрэліся з насельніцтвам і сваімі баявымі таварышамі.

## ДАПАМОГА СЯЛЯНАМ

Звыш 13 тысяч дзяўчат і юнакоў, вучняў сярэдніх школ Беласточчыны, аб'яднаных у добраахвотных гуфцах працы, выедзе сёлета восенню дапамагаць дзяржаўным сельскім гаспадаркам у капанні бульбы. Юнакі за сваю працу атрымаюць нармальную зарплату. Грошы прызначаюць яны перш за ўсё на краязнаўчыя экскурсіі.

## ЖАНЧЫНЫ - ПАЖАРНІКІ

У Сакольскім павеце дзейнічае аж 10 жаночых супрацьпажарніцкіх каманд, якія аб'ядноўваюць амаль 90 жанчын. Найбольш актыўныя сярод іх — каманды з Кузьніцы, Карыціна і Мінкоўцаў.

## СПОРТ

У мінулым тыдні наглядалася шмат важных падзей у спартыўным руху Беласточчыны. Вось некаторыя з іх: адбылася 5 ваяводская спартакіяда прафсаюзаў, у якой прыняло ўдзел паўтары тысячы спартсменаў. Першае месца заваявалі тэкстыльшчыкі. Таксама футбольная каманда тэкстыльшчыкаў перамагла ў Варшаве студэнцкую каманду вынікам 2:0. Спартыўны клуб «Мазур» з Элку ўрачыста адзначаў сваё 20-цігоддзе. Урачыстасць была спалучана са святкаваннем Дня чыгуначніка. З гэтай нагоды ў Элк прыехаў Міністр камунікацыі Пётр Левінскі. У нядзелю 10 верасня закончылася ў Беластоку 12 велагонка вакол Беластоцкага ваяводства. Прынялі ў ёй таксама ўдзел велагоншчыкі з Клайпеды і Гродна. Перамогу заваяваў **Павел Свідэрскі,** член клуба ЛьЗС у Стараседьцах пад Беластокам, другім быў **Драгасіюс** з Клайпеды.




**Niedziela, 17. IX.**

9.40 Program; 9.45 TV Kurs Rolniczy; 10.20 „Przypominamy, radzimy" — „Kiszenie traw"; 10.30 „W paszczy lwa" — film („Koń, który mówi"); 11.00 „Soczi po polsku" — rep. z dnia polskiego w Soczi; 12.55 Sprawozdanie sportowe; w przerwie ok. 13.45 PKF; 14.55 Puchar Europy w lekkiej atletyce — finały; 17.40 „Niedzielny Teatr TV" — „Gwiazdy na ziemi"; 18.30 „Syn swojego ojca" — film fr.; 18.55 „Eugeniusz Paukszta" („Spotkanie z pisarzem"); 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Operacja Y" — film fab. radz.; 21.35 „Niedziela Sportowa"; 22.00 Reportaż filmowy z I etapu sześciodniówki motocyklowej.

**Poniedziałek, 18. IX.**

15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV; 16.25 Politechnika TV: Chemia; 16.55 Wiadomości dziennika tv; 17.00 Dla młodych widzów: „Turniej o Żółtą Żyrafę"; 17.30 „Medale i detale"; 17.50 „Eureka"; 18.30 „Paryż śpiewa" — film; 18.45 Program publ.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Kino Krótkich Filmów"; 20.25 Teatr TV: „Król Edyp" Sofoklesa; 21.40 Reportaż filmowy z II etapu sześciodniówki motocyklowej z Zakopanego; 21.50 Dziennik TV; 22.05 Program na jutro; 22.10 Politechnika TV; 22.40 Politechnika TV. Chemia.

**Wtorek, 19. IX.**

10.00 Dla szkół (kl. III) „Warszawa — stolica Polski"; 10.20 Przerwa; 10.55 Dla szkół (kl. X) Język polski: Michał Lermontow — „Maskarada"; 11.25 Przerwa; 12.00 Dla szkół (kl. II) „Wspomnienia z wakacji"; 12.15 Przerwa; 12.30 „Przysposobienie rolnicze"; 13.05 „Pakt" — film tv NRD; 14.45 Przerwa; 15.05 Program dnia; 15.10 „Przysposobienie rolnicze"; 15.45 Politechnika TV. Matematyka; 16.25 Politechnika TV. Matematyka; 16.55 Wiadomości dziennika tv; 17.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce"; 17.15 „Telekram"; 17.25 „Nad Odrą i Bałtykiem"; 17.55 „Giełda piosenki"; 18.30 Wszechnica TV; 19.05 TV Kurier Warszawski; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Pakt" — film tv NRD; 21.40 Dziennik TV; 22.05 Reportaż filmowy z III etapu sześciodniówki motocyklowej z Zakopanego; 22.15 Program na jutro; 22.20 Politechnika TV.

**Środa, 20. IX.**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka: „Miary"; 10.25 „Biedna ulica" — film fab. bułg.; 11.45 Przerwa; 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: „Ropa naftowa"; 13.15 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Sprawozdanie sportowe; W przerwie PKF; 18.50 „Ich pierwsza miłość" — progr. publ.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Voci" — balet A. Blocha; 20.35 „Światowid"; 21.05 „Koronny świadek" — film tv USA; 21.55 Dziennik TV; 22.15 Reportaż filmowy z IV etapu sześciodniówki motocyklowej z Zakopanego; 22.25 Program na jutro; 22.30 Politechnika TV.

**Czwartek, 21. IX.**

11.55 Dla szkół (kl. V) Historia: „Życie starożytnych Egipcjan"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Język polski; 13.15 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV; 16.25 Politechnika TV; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 17.30 „Nie tylko dla pań" — magazyn; 17.50 „Dolina pogan" — film („Za siedmioma górami"); 18.15 „Kiedy trzeba podjąć decyzję"; 18.45 „Nie bądź okrutny, Otello" — montaż operowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Po szóstej" — Telewizyjny Klub Młodzieżowy; 21.35 Dziennik TV; 21.55 Reportaż filmowy z V etapu sześciodniówki motocyklowej z Zakopanego; 22.05 Program na jutro; 22.10 Politechnika TV.

**Piątek, 22. IX.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Domowa instalacja elektryczna"; 10.25 „Noce nad Newą" — film fab. radz.; 11.55 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów; 17.30 „Przygody Robin Hooda" — film; 17.55 Wszechnica TV: „Sekretarz domowy"; 18.25 „Jazz Gustawa Broma" (gra czechosłowacki zespół jazzowy); 18.45 „Poligon" — TV Przegląd Wojskowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 TV Kurier Mazowiecki; 20.20 Teatr TV: „Podróż" adaptacja telewizyjna; 21.05 „10 minut recenzji" — przed kamerą J. Błoński (Kraków); 21.20 Reportaż filmowy z VI etapu sześciodniówki motocyklowej z Zakopanego; 21.35 Dziennik TV; 21.50 Program na jutro; 21.55 Politechnika TV.

**Sobota, 23. IX.**

10.00 „Na zachodzie bez zmian" — film fab. USA; 11.30 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VI) Geografia; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Dwa oblicza Afryki"; 13.15 Przerwa; 15.50 „TV Kurs Rolniczy" — „Źródła pasz w gospodarstwie"; 16.25 „Organizacja i sędziowanie czwórboju"; 16.35 Program tygodnia"; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 „Za siedmioma górami" — film; 17.25 „Spotkania z przyrodą"; 17.50 „Operacja 1001" („7 milionów młodych"); 18.05 Kino Filmów Amatorskich; 18.35 „Gawędy wilków morskich"; 18.50 „Warszawa, ja i Ty"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.10 „Śpiewki stare, ale jare"; 20.55 Dziennik TV; 21.10 Wiadomości sportowe; 21.20 „Na zachodzie bez zmian" — film fab. USA.




**15 września, piątek**

13.40 Program; 13.50 Wydarzenia dnia; 14.00 Dla przedszkolaków i młodszych klas; 14.20 Przemówienie I sekretarza OBKOM-a partii z Witebska; 14.50 Film TV „Kilka kroków po placu"; 15.10 Nowiny Witebska; 15.45 „Na skrzydłach natchnienia". Nowele TV; 16.10 Dokumentalny film „Bohaterski wyczyn"; 16.20 Śpiewają siostry Prowornyja; 16.40 Nasze tekstylne miasteczko; 17.00 Piłkarski mecz; 20.00 Słuchamy uczestników rewolucji.

**16 września, sobota**

6.00 Technologia metalu (Dla studentów); 6.30 Fizyka; 7.00 Matematyka wyższa; 7.30 Mechanika teoretyczna; 8.00 Gimnastyka; 8.30 Detale maszyn; 9.00 Dla przedszkolaków i młodszych klas. Język angielski; 9.20 Szkolna filmoteka; 13.10 Program; 13.15 Słowo o lesie; 13.45 Nowości telewizyjne; 14.00 Klub kinopodróżników; 15.00 Lekkoatletyka; 17.00 Futbol; 18.45 Telewizyjne nowości; 19.00 Świat obecnie; 19.30 Dni Ukraińskiej SRR w Moskwie; 20.50 Śpiewa ludowy chór uralski.

**17 września, niedziela**

7.55 Program; 8.00 Budzik; 8.30 Dla przedszkolaków i uczniów z młodszych klas; 9.00 Klub szachowy; 9.30 Dla najmniejszych (kot, kogut i lis); 10.00 Podróż do lasu; 10.30 Dziecinny ekran; 11.10 Do 50 rocznicy władzy radzieckiej; 12.10 Muzyczna szkatułka; 12.30 Do 60 rocznicy z dnia urodzin Sergiusza Diergaja; 13.00 Dla żołnierzy i marynarzy radzieckich; 13.30 Kiosk muzyczny; 14.00 Sport; 17.20 Film dokumentalny. Rok 1935; 18.20 Muzyczny majak; 18.30 Nowości TV; 19.00 „Rok jak życie", film cz. II; 20.15 Dni Ukraińskiej SRR w Moskwie.

# Домік Элізы Ажэшка

(Працяг са стар. 1)

бывае заўсёды, калі мары сутыкаюцца з рэчаіснасцю і яна прыймае канкрэтныя формы непадобныя на тыя, якія засталіся, укляліся ў нашым уяўленні. Але калі падумаць, тут у гэтым доміку робіцца ўсё, што можа дапамагчы сучаснікам зразумець усё і ролю Элізы Ажэшка ў свой час.

Сучаснае Гродна не толькі па сваёй велічыні вельмі мала падобнае на той горад, які я на працягу доўгага блукання па свеце захавала ў сваёй памяці і які неадназразова бачыла ў сне. «Маё Гродна» было ціхім, нават сонным, утульным, прыгожым, правінцыяльным гарадком. Гэтую цішыню парушаў толькі стук колаў сялянскіх вазоў у рыначны дзень і рэдкае цоканне вазакоў на цэнтральнай вуліцы. Зараз у жыцці Гродна ўварваўся рух. На вуліцах — бесперапынны рух грузавікоў і аўтобусаў. Гродна сталася індустрыяльным горадам. У ім адчуваецца пульс жыцця ўсяе савецкай краіны, а ажыўлены вулічны рух як бы з'яўляецца сімвалам жыцця новага горада.

Выходжу на Маставую вуліцу, дзе калісьці стаяла адзінае вялікае прадпрыемства гор. Гродна — фабрыка Шэрэшэўскага. У кладоўцы гэтай фабрыкі мой бацька М. Кучкоўскі перапрацаваў звыш 30 гадоў. Сюды бывала несла яму абед. Тут насупраць фабрычнага корпуса змяшчалася публічная бібліятэка, дзе ўпершыню ў жыцці стала «чытачом». Першай бібліятэчнай кнігай, якую атрымала на сваё імя — былі апавяданні Тургенева з «Запісак паляўнічага», надрукаваныя вялікімі літарамі. Будынкаў гэтых няма. Ёсць новая вялікая і прыгожая Савецкая плошча, сквер і г.д. Ёсць новы прамысловы горад з многімі прадпрыемствамі, у параўнанні да якіх корпус б. ф-кі Шэрэшэўскага стаўся як быццам бы меншым. Асабліва змянілася і перакрытая нанава занёманская частка. Раней тут была вёска. Зараз нават цяжка знайсці тут старую вуліцу. Тут па-ранейшаму выглядае толькі Нёман і старэнькі могільнік на яго беразе. Словам новы і індустрыяльны горад. Новыя людзі і, як гаворыцца, новыя песні. Зусім новая мелодыя жыцця. Усё гэта радуе як рост і змены ў жыцці дзіцяці, які з часам робіцца дарослым чалавекам.

Але не хочацца траціць таго, што дарагое памяці. Я вяртаюся да доміка Элізы Ажэшка. Тут я адчуваю робіцца штосьці такое, што можа быць мостам паміж лепшымі традыцыямі старога Гродна, і Гродна сённяшняга дня.

Я думаю, што і ў Беластоку і ў Варшаве знойдуцца людзі, якім захочацца разам з гараднянамі прыняць удзел у стварэнні жывога помніка Элізы Ажэшка. Я думаю, што ў нас знойдуцца для Гродзенскай бібліятэкі Яе імя — творы пісьменніцы, а таксама і нешта іншае, чым зможам памагчы ва ўзбагачэнні і расшырэнні музея імя Элізы Ажэшка.

**Аляксандра Бергман**

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

# СПРЭЧКІ НАД МІНУЛЫМ

**У часопісе «Z Pola Walki» прысвечаным гісторыі рабочага руху вядзецца дыскусія на тэму: «Эвалюцыя марксісцкай думкі ў справах нацыі і дзяржавы».**

**У апошнім — 2 нумары гэтага часопіса змяшчаюцца тры артыкулы з гэтага цыкла, у тым ліку — два з іх аб нацыянальных праблемах СДКПіЛ. На ўвагу заслугоўвае перад усім артыкул Вацлава Кандэрскага — старога дзеяча СДКПіЛ, які меў свой удзел у фарміраванні адносін гэтай партыі да нацыянальнай праблемы. Як вядома, СДКПіЛ была супраць высоўванню лозунга незалежнасці Польшчы. Кандэрскі ў сваім артыкуле сцвярджае, што становішча такое было вынікам не, як пішуць сучасныя гісторыкі, недаацэньвання нацыянальных праблем у палітычнай дзейнасці, але наадварот — пэўнага нават перабольшвання значэння гэтых праблем. Партыя здавала справу з моцных антырасійскіх плыняў у Польшчы і ў імкненні захавання свайго ўласнага, пралетарскага, інтэрнацыянальнага аблічча рэзігнавала з лозунга незалежнасці. (п)**

# УВАГІ АБ ЗАЎВАГАХ

Нядаўна на сесіі Павятовай рады ў Бельску разглядалася справаздача з рэалізацыі пастановы аб развіцці асветы і культуры ў 1964—1966 гадах. Аб іх змесце пісаць не будзем, маючы на ўвазе тое, што і так кожны, хто гэтай справай цікавіцца ў Бельскім павеце, ведае. Не будзем зараз пісаць таксама і аб новай пастанове рады. Хочацца некалькі слоў сказаць аб заўвагах Камісіі асветы і культуры гэтай жа рады, якая выступіла з імі на сесіі.

Матэрыял, які прадставіла камісія на толькі цікавейшы ад справаздачы, што неяк больш адважна і больш вобразна ставіць асноўныя праблемы асветы і культуры ў павеце. Гаворачы аб школьным будаўніцтве сцвярджае, што новапабудаваныя, грамадскім чынам, школы, гэта ў асноўным аднакласоўкі, што абсалютна гэта не палепшае ўмоў зрэфармаванай васьмігадовай школы. Далей Камісія катэгарычна сцвярджае, што **«рэалізацыя грамадскіх чынаў у галіне асветы і культуры гвалтоўна загамавалася з прычын новых будаўляных правіл і многіх іншых цяжкасцей арганізацыйна-праўнага характару».** Фактычна, у Бельскім павеце разбудоўваецца толькі адна школа ў Рыбалах (што нас асабліва цешыць, таму што «Ніва» часта ў гэтай справе інтэрвеніравала). **«Трэба ўдумацца, —** робіць вывад Камісія, **— над гэтай з'явай, таму што ахвярнасць насельніцтва і ахвота даваць складчыны не паменшылася. Не ўмеем толькі іх выкарыстаць».**

Так востра пастаўленая справа здаецца быць правільнай і апраўданай. Толькі чытачу гэтай справаздачы здаецца, што вінаваты ў гэтай справе нехта «ўгары». Зрэшты, з матэрыялу не вынікае, хто вінаваты, або хто не хоча заняцца школьным будаўніцтвам у Бельскім павеце. Як асноўную прычыну падаюцца тут «новыя будаўнічыя правілы». Мы спраўджалі ў Аддзеле інвестыцый і капітальных рамонтаў Куратарыума і аказалася, што тут нічога не ведаюць аб новых правілах. Дык значыць асталіся такія ж, як і былі. Хіба, што Камісія мела на думцы тое, што зараз патрабуецца дакументацыі, кваліфікаваных работнікаў і 50% укладу насельніцтва. Але ж гэта патрэбныя і зразумелыя справы кожнаму амаль чалавеку. Прычын, што ў Бельскім павеце разбудоўваецца толькі адна школа, трэба шукаць хіба ў іншым месцы, не ў правілах. З матэрыялу Камісіі адчуваецца, што яна ведае, толькі не мае адвагі сказаць, абагульняючы гэта як «цяжкасці арганізацыйныя». Праўдападобна, разыходзіцца тут пра тое, каб не крануць хаця адміністрацыі, якая фактычна з'яўляецца адказнай за школьнае будаўніцтва. Маем на думцы і Аддзел асветы, і само Прэзідыум ПРН. Калі хто не верыць, адсылаю ў суседні Гайнаўскі павет, ці больш адлеглы Манецкі, дзе грамадскім чынам будуецца на многа больш аб'ектаў, а маюць яны такія ж сродкі і, што істотнае, гэтыя ж самыя будаўляныя правілы.

У сваіх увагах Камісія вельмі слушна звяртае ўвагу, што найбольш цікавяцца школьным будаўніцтвам кіраўнікі школ, якія не толькі збіраюць патрэбныя грошы і матэрыялы, але вымушаны будуючымся аб'ектам пастарацца рабочых, тэхнікаў і інжынераў на кіраўнікоў будоваў. **«Гэта, —** сцвярджае Камісія, **— падобна на забаўны парадокс».** А дзе ж адміністрацыя: Аддзел асветы, Аддзел будаўніцтва, урбаністыкі і архітэктуры, ГРН? Як гэтымі адзінкамі кіруе і каардынуе іх працу Прэзідыум Павятовай рады?

Другім парадоксам Камісія называе загад, у якім гаворыцца, што можна будаваць дамы культуры паводле тыповай дакументацыі, кошт якіх выносіць 800 тыс. зл. Калі ўлічыць, што насельніцтва мусіць унесці 50% чыну, дык можна думаць, што ў павеце не пабудуецца ніводзін дом культуры. Гэта факт. Толькі пры гэтым неабходна памятаць, што мы такіх за 80 тыс. зл. «куратнікаў-святліц» набудавалі і цяпер не вядома, што з імі рабіць. А калі рэч аб культурным жыцці, дык чаму ж яго не можна весці ў школах, калі немагчыма даць 50% чыну?

Нам здаецца, што фактычна парадоксам з'яўляецца пастулат Камісіі, у якім гаворыцца, што Аддзел асветы павінен пабольшыць кадры ПДК. Гэта абсалютна не патрэбна. Дом культуры ў Бельску фактычна не існуе і што даўно ён павінен быць толькі парадняй для аматарскага артыстычнага руху ў тэрэне. А гэта таксама выключна залежыць ад мясцовых улад.

**А. Карпюк**

В. БЕЛАКАЗОВІЧ

# Адам Міцкевіч і Аляксандр Герцэн аб літаграфіі «Славянскі нявольнік» — «Беларускі раб» Юзэфа Азямблоўскага

Герцэн у сваёй выдатнай брашуры «Хрышчаная ўласнасць» (1853) у наступных словах звяртаецца да чытача: «Ці бачылі вы літаграфію, выдадзеную А. Міцкевічам і ўяўляючую «Славянскага нявольніка»? Нянавісць, змешаная са злосцю і сорамам, напаўняе маё сэрца, калі я гляджу на гэты бязлітасны дакор, на гэтае «к тапарам, браткі», прадстаўленае з надзвычайнай праўдзівасцю». Далей ідзе ўдакладненне — гэта не проста «славянскі нявольнік», а беларус: «Беларускі мужык, без шапкі, ашалелы ад страху, галечы і цяжкай працы, рукі за поясам, стаіць пасярэдзіне поля і нейк скоса і безнадзейна глядзіць уніз. Дзесяць пакаленняў, замучаных на паншчыне, сфарміравалі такога парыю, што чэрап звузіўся, яго рост здрабнеў, яго твар з дзяцінства пакрыўся маршчынамі, яго рот сутаргава скрыўлены, ён адзвычаіўся ад слова. Звярыны погляд яго і запалоханы выраз паказваюць, на колькі крокаў ён пайшоў назад ад чалавека да жывёлы. За гэтае злачынства, за гэтага беларуса яго паны не свабодны, за яго іх геройства, іх пакутніцтва, іх пакуты не былі прыняты».[1])

Адсюль відаць, што літаграфія «Славянскі нявольнік» зрабіла на Герцэна надзвычайнае ўражанне і ў яго ўспрыйманні выклікала яркі абвінаваўчы доказ, накіраваны супраць прыгоннага права. У вачах рускага рэвалюцыянера яна была адначасова высокім узорам ідэйнага мастацтва, заклікаючага да барацьбы з грамадскім злом і ўсялякімі яго праявамі.

У пісьме да мастака Міхаіла Пятровіча Ботніка ад 21 лютага (5 сакавіка) 1859 года Герцэн, разглядаючы праблему суадносін мастацтва з рэчаіснасцю, пісаў: «Чым кроўнее, чым мацней ужываецца мастак у смутак і пытанні сучаснасці — тым мацней яны выяўляюцца пад яго пэндзлем. Ці ведаеце вы літаграфію, некалі зробленую Міцкевічам, «Беларускага раба» — я на гэтую карціну ніколі не мог глядзець без біцця сэрца»[2]).

У брашуры «Хрышчаная ўласнасць» Герцэн гэтую літаграфію называе «Славянскім нявольнікам», а ў пісьме да М.





П. Боткіна — «Беларускі раб». У рэдакцыйным каментарыі да пісьма Герцэна сказана: «Гэта літаграфія нам невядомая»[3]). У дапаўняючых каментарыях да «Хрышчанай уласнасці»[4]) растлумачваецца, што Герцэн мае на ўвазе літаграфію «Славянскі нявольнік» («L'esclave slave»), зарэгістраваную ў навуковым апісанні матэрыялаў Музея Адама Міцкевіча ў Парыжы пад нумарам 546, дзе гаворыцца, што польскі паэт, разглядаючы ў сваім курсе славянскіх літаратур прыгонны стан славянскіх сялян, пацвярджаў свае думкі, паказваючы слухачам літаграфію Азямблоўскага[5]). Пад нумарам 547 гаворыцца аб некалькі відазмененым варыянце «Славянскага нявольніка»[6]).

Навуковае апісанне матэрыялаў Музея Міцкевіча ў Парыжы сведчыць аб тым, што аўтарам літаграфіі «Славянскі нявольнік», з'яўляецца Юзэф Азямблоўскі. Нарадзіўся ў 1804 годзе, памёр — у 1878. Гэта быў вучань прафесара жывапісу Віленскага ўніверсітэта, дзейнага ўдзельніка масонскіх арганізацый Яна Рустэма.

Азямблоўскі заснаваў у Вільнюсе лі-




## КІЕЎСКАЯ РУСЬ — АГУЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА ЎСХОДНІХ СЛАВЯН

Адначасова з паўстаннем княстваў на землях палачан і дрыгавічоў узнікалі такія ж княствы ў іншых усходнеславянскіх плямёнаў. Ужо ў канцы IX стагоддзя князь Алег імкнуўся аб'яднаць усходнеславянскія княствы ў адну вялікую дзяржаву са сталіцай у горадзе Кіеве. Дзеля гэтага ён падпарадкоўвае сваёй уладзе суседнія княствы. У 865 годзе ён са сваімі дружынамі дапамагае Полацкаму княству вызваліцца ад нашэсця норманаў і адначасова ўзаляжнее полацкага князя ад сябе. У 885 годзе вызваляе радзімічаў з-пад залежнасці ад хазараў і падпарадкоўвае іх сваёй уладзе. Затым узаляжняе ад сябе Тураўскае княства. Аднак пачатае Алегам уз'яднанне ўсходнеславянскіх земель было нетрывалым. Пасля яго смерці паасобныя князі разам са сваімі княствамі выйшлі з-пад улады кіеўскага князя. Таксама адлучыліся і сталі самастойнымі Полацкае і Тураўскае княствы.

Пачатую князем Алегам справу збудавання адзінай усходнеславянскай дзяржавы прадоўжыў князь Уладзімір, які панаваў у Ноўгарадзе. У канцы X стагоддзя ён падпарадкаваў сваёй уладзе Полацкае княства, затым здабыў Кіеўскае княства, узалежніў ад сябе Тураўскае княства і далучыў землі радзімічаў. Такім жа чынам аб'яднаў усе іншыя ўсходнеславянскія землі ў адзіную дзяржаву — Кіеўскую Русь. Каб умацаваць еднасць дзяржавы, ён пазбавіў улады мясцовых князёў, а на іх княжэўскія пасады ставіў сваіх сыноў або даверaных сабе баяраў. Так Полацкае княства было аддадзена Ізяславу, а Тураўскае Святаславу.

Князь Уладзімір умацаваў граніцы Кіеўскай Русі ад знешніх ворагаў. Ён на чале сваіх добра ўзброеных дружын адбіваў напады качэўнікаў: хазар і печанегаў. У адным з паходаў пакарыў яцвяжскія плямёны. Яцвягі жылі на паўночным захадзе, за ракою Бобраў (Бебжай). Яны часта нападалі на дрыгавіцкія землі. Пасля перамогі над імі князя Уладзіміра, дрыгавічы, якія жылі над сярэднім цячэннем ракі Буга і ў вярхоўях Нарвы, былі забяспечаны ад яцвяжскіх наездаў. На граніцы абшырнай кіеўскай дзяржавы князь Уладзімір загадаў будаваць крэпасці.

## УВЯДЗЕННЕ ХРЫСЦІЯНСТВА Ў КІЕЎСКАЙ РУСІ

Адначасова са складваннем адзінай усходнеславянскай дзяржавы — Кіеўскай Русі — усталёўвалася на яе землях новы грамадскі лад — феадалізм. Зямля стала ўласнасцю князёў, баяраў, дружыннікаў. Ад іх залежалі сяляне, рамеснікі, купцы. Яны абавязаны былі працаваць на карысць уладальніка, на зямлі або ў горадзе якога жылі, даваць яму даніну прадуктамі, вырабамі, таварамі, выконваць іншыя патрабаванні феадал. Працоўныя людзі неахвотна прымалі на сябе такую залежнасць. У дзяржаве патрабавалася такая арганізацыя, якая б усяляла людзям перакананне неабходнасці падпарадкавацца новаму грамадскаму ладу і якая б адначасова служыла ўмацаванню еднасці ўсяе дзяржавы. Такую ролю ў суседніх краінах спаўняла рэлігія. Спачатку князь Уладзімір імкнецца ўстанавіць агульныя для жыхараў усёй Кіеўскай Русі вераванні. У цэнтры Кіева па яго загаду былі пастаўлены драўляныя і каменныя фігуры багоў, у якіх верылі ўсходнія славяне. Аднак гэта не садзейнічала ўмацаванню ўлады феадалаў у краіне.

Самай магутнай феадальнай дзяржавай, дзе найчасцей бывалі людзі з Русі і з якой яна мела найбольш шырокія ваенныя і гандлёвыя зносіны, была Візантыя. Пануючай рэлігіяй у ёй з'яўлялася хрысціянства — праваслаўе. Візантыя і паслужыла князю Уладзіміру і яго баярам узорам для пераймання.

У 988 годзе князь Уладзімір ахрысціўся ў візантыйскім горадзе Корсуні над Чорным морам і ажаніўся з візантыйскай царэўнай. Потым, вярнуўшыся ў Кіеў з вялікай колькасцю хрысціянскіх свяшчэннікаў, пачаў уводзіць новую рэлігію ва ўсёй дзяржаве. Хрысцілі простых людзей сілком. Князеўскія воі зганялі вялікія натоўпы народу ў раку або возера, а свяшчэннікі, стоячы на беразе, маліліся. Хто не хацеў прыняць новай веры, таго жорстка каралі. Пасля хрышчэння яшчэ доўгі час людзі тайком верылі ў ранейшых багоў, а часам адкрыта бунтаваліся супроць царквы і свяшчэннікаў, якія таксама станавіліся феадаламі.

Увядзенне хрысціянства мела для ўсходніх славян вялікае значэнне. Хрысціянства было аднолькавай ва ўсіх землях рэлігіяй. Яно спрыяла ўнутранай еднасці дзяржавы. Адначасова сваім павучаннем простых людзей да паслушэнства і пакорлівасці ўладам умацавала панаванне князёў і іншых феадалаў. Прыняўшы хрысціянства — пануючую рэлігію ў тагачаснай Еўропе, Кіеўская Русь яшчэ больш наблізілася да еўрапейскіх краінаў. Праваслаўная царква паходзіла з Візантыі, яна імкнулася наблізіць Кіеўскую Русь да багатай візантыйскай культуры і гэтым садзейнічала развіццю культуры ва ўсходняй Славяншчыне.

*ПЫТАННІ.*

*1. Як адбылося ўз'яднанне ўсіх усходнеславянскіх зямель у супольную дзяржаву — Кіеўскую Русь?*

*2. Якія прычыны выклікалі патрэбу ўвядзення хрысціянства ў Кіеўскай Русі?*

*3. Калі і як адбылося хрышчэнне ўсходніх славян?*

*4. Якое значэнне мела ўвядзенне хрысціянства для Кіеўскай Русі?*

## ПРА ПАПЯРОВУЮ НАДЗЕЮ

Ветэрынарная лячэбніца ў Орлі месціцца ў такой хаце, у якой узіму немагчыма вытрымаць. Прытым, няма месца на аперацыі, якія праводзяцца на панадворку, дзе ў час асенніх дажджоў усё «раскісае» ад плоту да плоту ў адну вялікую калужыну. Жалезны гараж на службовую машыну замарожвае яе матор — што гэта за галава надумалася будаваць такі гараж, га? Словам, падобнае на тое, што зроблена ўсё, каб ветэрынарная лячэбніца мела як найгорш... Арлянская грамадская рада не квапіцца зрабіць хаця малы рамонт гэтай хаткі — залатаць шчыт, ушчыльніць сцены, каб не задуваў снег, і г.д.

Будова новай лячэбніцы фігуруе ў паперах ужо доўгі час. І арлянскія шэфы вераць у сілу паперы, гэтага бога бюракратыі. Спадзяюцца з году ў год пачатку будовы. Відаць, думаюць, што чым горш будзе ў лячэбніцы, тым хутчэй пачнецца доўгачаканая будова... Тым часам Беластоцкае ваяводства — гэта не толькі адна Орля — і ваяводскія ўлады халоднаю рукою «перакідаюць» тэрміны будовы гэтай лячэбніцы — перакінулі ўжо на 1969 г., а нават на 70-ты год.

Да гэтага часу з Орлі ўцякло або выехала назаўсёды сем ці восем лекараў-ветэрынараў. Цяпер працуе тут лекар А. Нікіцюк, добры і «свой чалавек», як кажуць людзі. Добры то добры, але як доўга ён вытрымае?

У грамадскай радзе гаварылі мне, што ён вытрымоўвае. Што ж, мясцовыя ўлады ляпей ведаюць... (С.Я.)

тагрaфічнае прадпрыемства. У ім менавіта ілюстравалі свае кнігі Юзэф Ігнацы Крашэўскі, Матэуш Тэодар Нарбут, Караль Рачынскі, Флорыян Бохвіц, Юзэф Струміла, Ян Шымлер і шматлікія іншыя аўтары. Сам Азямблоўскі стварыў даволі многа польска-літоўскіх партрэтаў (м. ін. мастака Яна Рустэма і прафесара медыцыны Віленскага ўніверсітэта, аўтара ўспамінаў аб жыцці віленскага грамадства першай трэці XIX стагоддзя Юзэфа Франка). Ён таксама быў аўтарам шматлікіх краявідаў Вільнюса і іншых беларуска-літоўскіх гарадоў, а таксама мясцовых пейзажных замалёвак.

У літаграфіі «Славянскі нявольнік» Азямблоўскі вельмі пераканаўча паказаў трагедыю беларускага прыгоннага селяніна. Цяжка зараз устанавіць, якім чынам гэта літаграфія трапіла ў рукі Адама Міцкевіча. Вядома толькі, што другі размаляваны экземпляр «Славянскага нявольніка», крыху павялічаны, трошкі зменены і дзе-ні-дзе дапоўнены, быў выдадзены парыжскай літаграфічнай фірмай Лемерсье, якая карысталася вялікім даверам сярод палякаў і якая была вельмі заслужанай у літаграфаванні польскіх партрэтаў, краявідаў і пейзажных замалёвак. У навуковым апісанні Музея Міцкевіча ў Парыжы гэта літаграфія абазначаецца нумарам 547. Побач друкуюцца абедзве літаграфіі. Іх арыгінал знаходзіцца ў музеі Міцкевіча ў Парыжы. Рэпрадукцыі атрыманы мною з прыватных збораў Ежы Енджэевіча, за што аўтар гэтага артыкула прыносіць яму сардэчную падзяку.

Міцкевіч неаднаразова суправаджаў свае парыжскія лекцыі па курсу славянскіх літаратур ілюстраваным матэрыялам, які пацвярджаў паасобныя яго тэзісы. У гэтых адносінах вельмі яму спатрэбілася літаграфія «Славянскага нявольніка». Разглядаючы ў брашуры «Хрышчаная ўласнасць» пытанні прыгоннага права, зямельнай уласнасці і сялянскай абшчыны, Герцэн знайшоў для сябе многа блізкіх думак.

Павышаную цікавасць да курсу славянскіх літаратур Міцкевіча праяўляў Герцэн яшчэ перад сваім ад'ездам з Расіі. Спасылаючыся на словы паэта-прафесара, выказаныя ім 6 снежня 1842 года на першай лекцыі трэцяга парыжскага курса, што «ва ўсім зямным шары, якога так вялікую частку займаюць славяне, няма, апрача гэтай залы, ніводнага месца, дзе б можна было свабодна гаварыць прамову»[7]) Герцэн у дзённіку ад 9 кастрычніка 1843 года падкрэсліваў: «А нас, славян, чакае маўчанне або слова па-за радзімай, як сказаў Міцкевіч, пачынаючы цяперашні курс свой»[8]). Хто ведае, ці не зрабіў уплыву прыклад Міцкевіча на рашэнне Герцэна, каб самому гаварыць свабоднае «слова па-за радзімай».

Больш шырокая цікавасць да Міцкевіча ўзнікла ў Герцэна ў перыяд яго ажыўленых сувязей і дыскусій з маскоўскімі славянафіламі. Некаторыя з іх (А. Хамякоў, І. Кірэеўскі, М. Пагодзін, С. Шэвыроў) у гады знаходжання Міцкевіча ў Расіі былі з ім у блізкіх або сяброўскіх адносінах. Наведваючы маскоўскі літаратурны салон Елагіных-Кірэеўскіх, праводзячы дыскусіі са славянафіламі, Герцэн, мабыць, неаднаразова чуў, як у запале палемікі ўдзельнікі яе спасылаліся на Міцкевіча, на яго меркаванні і думкі. Як высока цанілі ў гэтым кругу Міцкевіча, засведчыць пазней Герцэн у «Былым і думках»: «...я піў за яго першы раз, у Маскве, на публічным абедзе, дадзеным Граноўскаму ў 1843 годзе. Хамякоў падняў чарку са словамі «за вялікага адсутнічаючага славянскага паэта!» Імя (якога не адважыліся выгаварыць) не было патрэбна: усе ўсталі, усе паднеслі чаркі і, стоячы ў маўчанні, выпілі за здароўе выгнанніка»[9]).

Якраз у гэты перыяд прыцягнуў увагу Герцэна курс славянскіх літаратур Адама Міцкевіча. Чытанне парыжскіх лекцый польскага паэта прыводзіць Герцэна да вываду, што ў поглядах маскоўскіх славянафілаў і Міцкевіча, нягледзячы на многія разыходжанні, усё ж выступаюць таксама відавочныя аналогіі. Гэта датычыць перш за ўсё іх адмоўных адносін да рэформ Пятра І і да сучаснай бюракратыі, іх поглядаў на старажытную абшчыну і на будучыню славянскага свету.

Курс славянскіх літаратур Міцкевіча меў некаторы ўплыў на ідэйную эвалюцыю Герцэна і падрыхтаваў у нейкай ступені яго пераход ад заходніцтва сараківых гадоў да пункту гледжання «рускага сацыялізма», заахвочваючы адначасна з усёй сур'ёзнасцю аднесціся да высунутай славянафіламі праблемы рускай сялянскай абшчыны. Да гэтых пытанняў і праблем Герцэн будзе неаднаразова вяртацца ва ўсялякіх сваіх працах эміграцыйнага перыяду. Такім чынам дактрына «рускага сацыялізма» Герцэна заключае ў сабе таксама водгукі і адгалоскі парыжскіх лекцый Міцкевіча. Аб гэтым сведчаць такія працы, як: «Аб развіцці рэвалюцыйных ідэй у Расіі» (1850), «Рускі народ і сацыялізм» (1851), «Палякі даруюць нам!» (1853).

У перыяд чытання курса славянскіх літаратур Міцкевіча Герцэн запісвае ў дзённіку ад 12 лютага 1844 года: «Славяне ўсюды рабы, усюды халопы — спакойныя, цасіўныя халопы. Дэмакратычны элемент, на які яны абапіраюцца, страчаны, прыгонны стан — дастатковы доказ»[10]). Да гэтай жа праблемы вяртаецца Герцэн у брашуры «Хрышчаная ўласнасць». Выяўляючы прыгоннае права і яго вынікі. Герцэн успомніў парыжскі курс лекцый Міцкевіча і зусім свядома спаслаўся на літаграфію «Славянскі нявольнік». Гэта літаграфія ва ўспрыйманні Герцэна атоесамлівалася з адмоўнымі адносінамі Міцкевіча да прыгоннага права і да ўсялякіх яго праяваў.

### ЗАЎВАГІ

[1]) А. І. Герцэн, Збор твораў у трыццаці тамах, т. XII, Выд. АН СССР, Масква 1957, стар. 98—99.

[2]) А. І. Герцэн, Збор твораў у трыццаці тамах, т. XXVI, Выд. АН СССР, Масква 1962, стар. 241.

[3]) Там жа, стар. 448.

[4]) А. І. Герцэн, Збор твораў у трыццаці тамах, т. XXX, кн. 2, Выд. АН СССР, Масква 1965, стар. 769.

5) B. Monkiewicz et E. Fiszer, Bibliothegue Polonaise de Paris. Inventaire du Musse Adam Mickiewicz portraits et souvenirs, Paris 1948, s. 34.

[6]) Там жа, стар. 34.

[7]) А. Міцкевіч, Творы, т. XI, Варшава 1955, стар. 8.

[8]) А. І. Герцэн, Збор твораў у трыццаці тамах, т. 2, Выд. АН СССР, Масква 1954, стар. 309.

[9]) А. І. Герцэн, Збор твораў у трыццаці тамах, т. X, Выд. АН СССР, Масква 1956, стар. 39.

[10]) А. І. Герцэн, т. 2, цыт. выд., стар. 334.

 

### КАЛІ АБ'ЯВІЦЬ АБ СМЕРЦІ?

Калі айцец Х'юбер адчыніў дзверы сваёй машыны, яго акружыла група карэспандэнтаў:

— Ён памёр? — спытаў Х'ю Сайдзі з часопіса «Тайм».

Свяшчэннік глыбока ўздыхнуў.

— Так, памёр, — сказаў ён.

Але ніякай афіцыйнай заявы пакуль што не было, а расказ невядомага свяшчэнніка не мог служыць канчатковым пацвярджэннем.

Афіцыйную заяву нельга было адкладаць бясконца. Захоўваць гэты сакрэт доўга было немагчыма. Занадта шмат людзей знаходзілася ў аперацыйнай. Макілдаф знайшоў Кена О'Донела.

— Ён памёр, так? — спытаў ён.

О'Донел выціснуў з сябе нейкі гук у пацвярджэнне.

— Мне вельмі шкада, што прыходзіцца звяртацца да цябе ў такі страшэнны час, — сказаў Макілдаф, — але ўсе павінны ведаць, што прэзідэнта Кенедзі больш няма.

— А ці ж яшчэ не ведаюць?

— Не, я нічога не гаварыў.

— Тады табе давядзецца зрабіць заяву, — сказаў О'Донел. — Але спачатку лепш заручыся згодай Ліндана Джонсана.

Агент правёў Макілдафа па беламу лабірынту. Зрабіўшы апошні паварот направа, Макілдаф убачыў шырокія плечы канстытуцыйнага пераемніка Кенедзі. Ён адкашляўся і паклікаў:

— Пан прэзідэнт.

Да Джонсана так яшчэ ніхто не звяртаўся. Ён павярнуўся і, пасля ўспамінаў Макілдаф, « паглядзеў на мяне, як на ненармальнага».

Макілдаф папрасіў дазволу зрабіць заяву аб смерці Кенедзі. Джонсан пакруціў галавой.

— Не, пачакайце, — сказаў ён. — Мы не ведаем, ці не камуністычная гэта змова. Лепш я спачатку перабяруся адсюль на самалёт. Яны гатовы вывезці мяне адсюль?

Як расказвае Джонсан, О'Донел двойчы заклікаў яго перабрацца на борт «ВПС-1». Джонсан успамінае, што згадзіўся, маючы намер пачакаць на аэ-




радроме, пакуль у самалёт не будуць дастаўлены пані Кенедзі і цела прэзідэнта.

### ДЗВЕ ВЕРСІІ

О'Донел заяўляе, што гэта версія «абсалютна, поўнасцю і зусім пэўна не адпавядае сапраўднасці». Ён сцвярджае, што Джонсан намякнуў на магчымасць змовы. «Я згадзіўся, што ён павінен як мага хутчэй ехаць адсюль, — расказвае О'Донел. — Ён спытаў у мяне, ці павінны яны перакінуць самалёт — маючы на ўвазе, як я тады думаў, «ВПС-2» — на ваенна-паветраную базу Карсуэл. Я сказаў, што не. Да базы было 35 міль, і на перакідку самалёта спатрэбіцца занадта многа часу. Акрамя таго, у любым выпадку ніхто не даведаецца, што Джонсан едзе з Парклендскага шпіталя ў Лаўфілд. Няма ніякай магчымасці даведацца пра гэта».

«Што датычыць «26.000», — расказвае О'Донел, — то аб «ВПС-1» мы з прэзідэнтам наогул не гаварылі. Калі б мы ведалі, што ён збіраецца ляцець на «ВПС-1», мы ўзялі б «ВПС-2». Яны нічым не адрозніваліся».

Янгблад пацвярджае версію Джонсана, але О'Донел быў яўна ашаломлены, калі праз гадзіну знайшоў Джонсана на борце «26.000». Зусім магчыма, што Джонсан упамянуў пра «самалёт» у размове з О'Донелам адносна базы Карсуэл і што новы прэзідэнт уявіў, што яны з Кенам гавораць пра адзін і той жа самалёт. Але малаверагодна, каб О'Донел прапанаваў Джонсану чакаць пані Кенедзі, калі быў другі самалёт. Кен ведаў, што Джонсан хацеў неадкладна вылецець. Ён таксама ведаў, што ўдава прэзідэнта Кенедзі не паедзе без цела мужа і таму затрымаецца. Разыходжанне ў гэтых дзвюх версіях, напэўна стала вынікам неразбярыхі, хоць ёсць і другая магчымасць. Новы вярхоўны галоўнакамандуючы, магчыма, хацеў быць побач з загінуўшым вярхоўным галоўнакамандуючым у момант, які зусім магчыма мог стаць нацыянальнай катастрофай і не выключна, што ён меркаваў, што О'Донел разумеў і падзяляў яго заклапочанасць.

Ад'езд Ліндана Джонсана з Паркленскага шпіталя суправаджаўся сцэнамі беспарадку, шумам і раптоўнай блытанінай.

«Зусім нечакана для сябе, — расказвае кангрэсмен Генры Ганзалес, — я ўбачыў само сканцэнтраванне моцы і магутнасці Злучаных Штатаў у стане поўнай разгубленасці».

### «ЗАВЕСЬЦЕ ФІРАНКІ!»

Кангрэсмен Альберт Томас выпадкова апынуўся ў першай аўтамашыне ў ролі жывога шчыта. Агент Руфус Янгблад падвёў новага прэзідэнта да машыны, за рулём якой сядзеў начальнік даласкай паліцыі Джэс Керы. Агент усё яшчэ не мог вызваліцца ад думкі аб змове і настаяў на тым, каб Джонсаны ехалі ў розных аўтамабілях. Калі б снайпер пазнаў пані Джонсан, ён адкрыў бы агонь не па той машыне. Янгблад пасадзіў кангрэсмена Хомера Торнберы з Керы, сеў побач з Джонсанам на заднім сядзенні і загадаў прэзідэнту нагнуцца і сесці так, каб яго галава не была відаць у акно машыны. Паколькі Джонсан падпарадкоўваўся, кангрэсмен Томас, выскачыўшы з дзвярэй шпіталя, яго не ўбачыў.

— Пачакайце! — закрычаў Томас.

— Ад'язджайце, ад'язджайце! — прыспешваў Янгблад.

Джонсан, які сядзеў скурчыўшыся на падлозе аўтамабіля, спытаў: «Хто гэта?» Агент адказаў, і Джонсан упершыню за ўвесь гэты час загадаў: «Тады спыніце». «Наш ад'езд, — успамінаў пасля тэхаскі кангрэсмен Джэк Брукс, — нагадваў цырк малпаў».

Калі яны вылезлі з машыны ў Лаўфілдзе, Янгблад загадаў: «Усе бягом наверх па трапу». Усе падпарадкаваліся. Джонсан накіраваўся прама да тэлевізара.

«Завесьце ўсе фіранкі ў самалёце», запатрабаваў прэзідэнт.

«Завесьце фіранкі», — як рэха паўтарыў за ім Янгблад. Тут яны памяняліся ўжо ролямі ў параўнанні з тым, што было ў Парклендскім шпіталі.

Гэтым галавакружным пераездам з Парклендскага шпіталя аперацыя Янгблада, як яе можна назваць, была завершана.

**(Працяг будзе)**

## БУТЭЛЕЧНЫ ДОМ



**Канадзец Джордж Пламб пабудаваў дом з пустых бутэлек. Нагадвае ён сярэдневяковы замак. На гэту ўнікальную пабудову пашло 200 тысяч бутэлек і 800 мяшкоў цэменту.**

## Чытаючыя машыны



**Каўнаская чытаючая машына.**

На Літве ў Каўнаскім палітэхнічным інстытуце апрацавана лабаратарыйны мадэль машыны, якая чытае друкаваныя тэксты. Пакуль што яна распазнае літары машынапісу і толькі некаторыя іншыя знакі. Запісаны на плёнцы тэкст, які праходзіць з хуткасцю 5 метраў у секунду, машына пераўтварае ў адпаведныя электрычныя сігналы, якія ў сваю чаргу трапляюць у лікавую машыну. Хуткасць увядзення даных сягае тысячы знакаў на секунду. Самачытаючыя машыны дазваляюць рэзігнаваць з т.зв. дзюркаваных картаў (ліcтоў), што спрашчае ўвядзенне даных у лічыльныя машыны.

(а-ка)




### БАЦЬКА І СЫН

Ісаеў астаўся яшчэ на тры дні ў Кракаве. Ён кожную раніцу і кожны вечар выклікаў да сябе ў нумар цырульніка Андрушу Грышанчыкава, які абслугоўваў афіцэрскі корпус. Гэтаму папярэднічала акрэсленая камбінацыя: ён зайшоў у тую афіцэрскую цырульню, дзе працаваў Коля; афіцэры ўсхапіліся, ён знакам дазволіў ім сядзець, сам сеў ля акна і пачаў чытаць газету.

— Прашу, — сказаў Коля, — прашу вас, пане оберштурмфюрэр.

Ісаеў сеў у крэсла і закрыў вочы. Ён адчуваў на сваім твары рукі сына, і на сэрцы ў яго было трывожна, прыемна і балюча.

— Дзе вы так добра навучыліся свайму майстэрству?

— У Мінску, пане оберштурмфюрэр.

— А гаворыце, бы берлінец.

— Я рускі.

Ісаеў адкрыў вочы і ўважна паглядзеў на сына. Потым сказаў:

— Цікава. Мне даводзілася дапытваць рускіх, але стрыгчыся ў іх ні разу.

— Я лаяльны рускі.

— Хвалю. Дык вы... Як вас?

— Грышанчыкаў. Андрэй Грышанчыкаў...

— Дык вось, Андрэ, прашу вас прыходзіць да мяне ў дваццаць сёмы нумар Французскага атэля кожны дзень — а сёмай на ранішні масаж і а дзевятай на масаж твару вячэрні.

Калі на наступны дзень Коля прышоў да бацькі, той зачыніў дзверы і эдразу ж уключыў прыёмнік, настаўлены на галосную музыку. Паставіў будзільнік — праз дзесяць мінут масаж павінен быць закончаны. Спачатку яны гаварылі ціха, хутка, перабіваючы адзін другога; потым Ісаеў змоўк, узяў рукі сына ў свае, пачаў гладзіць іх, як тады, у дваццаць другім ён гладзіў цудоўныя Сашанькіны рукі.

Берг на сустрэчу прышоў адзін: Коля, Сцяпан, група Сівога і Віхор удакладнілі гэта. Сцяпан перадаў Бергу заданне. Ён папрасіў яго даць ім інфармацыю заўтра. Ён папрасіў яго аб гэтым, таму што Ісаеў спяшаўся ў Берлін, а без яго пераправеркі тых дадзеных, якія павінен быў перадаць палкоўнік, далейшая яго распрацоўка была б немагчымай і надта рызыкоўнай.

Берг прынёс тыя дадзеныя, якія прасіў Багданаў. У час вячэрняга масажа Коля перадаў іх фон Штырліцу. Дадзеныя былі абсалютна дакладнымі. Гэта было службовым злачынствам палкоўніка Берга, за гэта ён быў бы неадкладна расстраляны даведайся аб гэтым гестапа.

Пасля таго, як Берг перадаў усе дадзеныя аб штабе групы армій «А». Ісаеў сказаў сыну:

— Саня, беражыце гэтага агента — гэта велізарная ваша ўдача.

Ён даў яму адрас радыёцэнтра танкавай дывізіі, які стаяў амаль без аховы на ўскраіне Кракава.

—Вазьміце два апараты, — сказаў ён, — з адным пойдзеце да партызан, звяжацеся з цэнтрам маімі пазыўнымі. Адтуль прышлюць самалёт, каб забраць ФАУ, гэтую забаўку, што не ўзарвалася. Гэта велізарнай важнасці заданне. Другі пакіньце ў сябе і не тарчыце ў эфіры па гадзіне: запеленгуюць.

Ён адляцеў у Берлін раніцай. Коля прыйшоў да бацькі рабіць апошні масаж. А ў нумары сядзеў шэф гестапа: ён прыехаў правесці чалавека з Берліна.

Шэф доўга назіраў за тым, як рускі масаваў твар фон Штырліца, а потым сказаў:

— Чорт вазьмі, я нават адчуваю, як гэта прыемна. Дзе вы знашлі гэтага тыпа?

— Ён гаворыць па-нямецку, — адказаў фон Штырліц.

— Хлопец, — сказаў шэф гестапа, — было б нядрэнна, калі б ты памяў і мяне.

— З прыемнасцю.

— Адносьцеся да яго добра, — сказаў фон Штырліц, — я яго, магчыма, забяру ў Берлін: такога масажыста я сустракаю ўпершыню.

Фон Штырліц кінуў на стол грошы. Коля паслужліва схаваў іх у кішэню і, кланяючыся, выйшаў з нумару.

Ідучы да машыны, фон Штырліц убачыў сына: той стаяў у натоўпе каля касцёла і неадрыўна глядзеў на яго, увесь белы ад хвалявання...

Назаўтра баявая група на чале са Сцяпанам Багданавым зрабіла налёт на радыёцэнтр танкавай дывізіі. У перастрэлцы загінула трое рускіх і двое немцаў з аховы. Радыёапаратура была дастаўлена на канспірацыйную кватэру Сівога. Адсюль Сцяпан і трое яго людзей вышлі разам з начальнікам штаба партызан у адгор'і Татр, дзе партызаны «Сакола» хавалі ФАУ.

Другі апарат быў абсталяваны ў машыне Апеля. Пад вечар Апель павёў сваю машыну — са спецыяльным начным пропускам — па шашы на Закапанэ. Аня перадавала Бародзіну аб арышце, аб Бергу, аб сваёй дэзінфармацыйнай радыёграме, аб гестапаўцах, якія выдзелены для знішчэння горада, — яна перадавала ўсё гэта, спяшаючыся, кусаючы ад хвалявання губы.

А потым яна перадала трохзначныя, незразумелыя ёй лічбы, якія ўпісаў Коля: гэта было паведамленне ад фон Штырліца па прычыне ФАУ. Аня адкінулася на спінку сядзення і пачала чакаць адказу. Але Бародзін адразу не адказаў.

### ГРАДЫЕНТА ВЕРЫ

Паведамленні, якія перадала Аня, ашаламілі Бародзіна. Ён ясна ўсведамляў тое, што адразу ж пасля таго, як ён даложыць аб арышце Ані і аб тым, што яна ўстанавіла кантакт з фашысцкім контрразведчыкам Бергам, ды яшчэ контрразведчыкам такога класа, як палкоўнік, — уся дзейнасць групы Віхра будзе пастаўлена пад сур'ёзнае падазрэнне.

« Вядома, менавіта гэтага не даруюць. Гэтага не зразумеюць. Мой Кабцоў думае прасталінейна: сядзела ў фашыстаў? Сядзела. Іншыя патрыёты сумленна смерць прыймаюць, а ты пайшла на здзелку з фашыстамі? Пайшла. Перадала ў цэнтр дзезу? Перадала. Здрада. Значыць выклікаць сюды. Вайна, часу няма чыкацца. Пераможам — разбярэмся. А калі яна ўсё гэта рабіла для нас? Ну, гэта яшчэ даказаць трэба».

Відаць, выратаваць дзяўчыну можа адказ з Генеральнага штаба, — думаў Бародзін. — Калі яны адтуль пазвоняць і скажуць, што група Віхра памагла ў аперацыі, на якую Масква пайшла ў сувязі з тым немцам, што



 

